Грамадскія аб'яднанні

# Тэрыторыя бескарыслівых спраў

*Гады тры таму мяне ўразіла адна гісторыя, якая спачатку вельмі нагадвала казку з трагічным пачаткам і шчаслівым "happy endam". Насамрэч яе пачатак вельмі нагадваў канец - спадзяванняў, надзей, самога жыцця у рэшце рэшт. 55-гадовую жанчыну выпісалі з анкалагічнага інстытута Масквы ("Кашчэеўскі" - як яго называюць самі масквічы) фактычна паміраць. Яна на самай справе пачувала сябе вельмі блага - аперацыя не дала належнага эфекту, пачаліся метастазы. Жанчыну чакалі пустая кватэра (жанчына была адзінокай) і нясцерпныя болі. Карацей кажучы, поўны беспрасвет. Жанчына была ў адчаі. Жыць не хацелася. Аднойчы, прыйшоўшы на кухню прыгатаваць сабе шклянку гарбаты, яна ўключыла радыё. Па ім ішла перадача аб анкалагічным цэнтры. У канцы праграмы вядучы заклікаў масквічоў адгукнуцца і папрацаваць у Цэнтры ў якасці валанцёраў. Жанчына, не ведаючы чаму, запісала тэлефон. ...Бяссоннай ноччу, варочаючыся ў ложку, яна думала аб жудаснай адзіноце, якая засмоктвала яе, быццам вір... Раніцай яна пазваніла па гэтым тэлефоне і прапанавала сваю дапамогу. "Пакуль я яшчэ магу хадзіць, я павінна знайсці сабе нейкую справу, інакш з'еду з глузду", - думала яна. Так яна стала дапамагаць даглядаць анкалагічных хворых, такіх жа, як яна, толькі ўжо ў горшым стане. Работы было шмат, да таго ж каб навучыцца аказваць пэўную медыцынскую дапамогу, яна стала наведваць заняткі Школы для валанцёраў. А яшчэ разам з іншымі жанчынамі, хворымі на рак, яны стварылі Клуб узаемадапамогі, каб падтрымліваць адзін аднаго. Час ляцеў непрыкметна. Толькі недзе праз паўгода яна ўспомніла пра сябе і свае праблемы. І са здзіўленнем заўважыла, што ёй не стала горш... Уласная бяда адступіла перад спачуваннем, выкліканым пакутамі іншых людзей. Шкадаванню сябе не было месца ў душы, бо душа была запоўнена чужым горам... Гэтая жанчына жыве і сёння.*

***

Як бы ні склалася жыццё чалавека, самае важнае - адчуванне сваёй патрэбнасці. "Я дапамагаю - значыць, я жыву", - сказаў мне адзін пенсіянер. "Я дапамагаю - значыць, я моцная", - сказала ў прыватнай размове псіхолаг. У ЗША і Еўропе шырока распаўсюджаны валанцёрскі рух.

Мільёны студэнтаў, маладых жанчын, часта вельмі забяспечаных, ходзяць у бальніцы, дамы састарэлых, сіроцкія прытулкі, аказваючы бескарыслівую пасільную дапамогу абяздоленым, інвалідам, дзецям-сіротам, састарэлым. У Беларусі гэтая традыцыя яшчэ не вельмі шырока распаўсюджана. Але калі ўспомніць, што яшчэ 8 гадоў назад у нас нават такога слова ніхто не ведаў...

У 1994 годзе да нас у краіну прыехалі дзяўчынкі-валанцёры з Амерыканскай дабрачыннай арганізацыі "Сіці Коун Інтэрнэшнл", якія сталі наведваць школы, ВНУ, іншыя навучальныя ўстановы і расказваць пра валанцёрскі рух: што гэта такое, як гэта можна арганізаваць, якія ёсць методыкі. Галоўнай іх мэтай было даць нам "вудачку", навучыць не толькі атрымліваць гуманітарную дапамогу, але і аказваць яе самім. Таму што шмат чаго можам зрабіць мы самі, нічога не просячы ў іншых. Побач жыве пажылая і хворая суседка? Гэта ж зусім няцяжка, калі ідзеш у магазін, купіць хлеба і для яе, альбо зайсці лішні раз у аптэку. І не патрэбна ў такіх выпадках служба сацыяльнай дапамогі... Зярняткі валанцёрства, пасеяныя маладымі амерыканкамі, далі добрыя парасткі. Адгукнулася шмат людзей: школьнікаў, студэнтаў, дарослых. "Ахвотней за ўсё адгукаюцца моладзь і людзі пенсійнага ўзросту, - гаворыць дырэктар Цэнтра валанцёрскага руху "Крок насустрач" Міжнароднай грамадскай дабрачыннай арганізацыі "Надзея-Экспрэс" Аксана Трухан. - У іх ёсць жаданне быць і патрэбным, і самарэалізавацца. Астатнія ўзроставыя катэгорыі проста заняты іншым, у іх хапае сваіх праблем: у сям'і, на рабоце..." І дадае: "Калі дзіця пабудзе валанцёрам хаця б год ці нават паўгода, дык потым, нават калі яно перастане гэтым займацца, яно забудзецца на сваё валанцёрства толькі на нейкі час. Паявіцца крыху больш вольных хвілінак - і яно ўспомніць аб гэтым, бо патрэба дапамагаць ужо сядзіць у душы".

Згадзіцеся, не вымагае шмат сіл тое, каб час ад часу рабіць штосьці добрае для іншых. Напрыклад, прыбраць кватэру ці купіць лекі інваліду, пачытаць кнігу ці пагуляць па вуліцы са сляпым чалавекам, прынесці прадукты з магазіна бабульцы альбо прыбраць тэрыторыю свайго двара ці дзіцячага сада. Валанцёры-школьнікі ідуць сёння ў дзіцячыя дамы, дзіцячыя сады для сляпых і глухіх дзяцей, у сем'і да інвалідаў. Валанцёры-студэнты медыцынскіх вучылішч працуюць у дзіцячым анкагематалагічным цэнтры, бальніцах, Хоспісе. І не толькі ў Мінску, а і ў Гомелі, Магілёве, Бабруйску, Чачэрску, Віцебску...

***

У гэтым артыкуле я паставіла мэтай напісаць не аб тым, як дапамагаюць валанцёры людзям, а як гэтая праца дапамагае ім самім, як некалькі гадзін у тыдзень, аддадзеных іншым, мяняюць жыццё не толькі іншых людзей, але і самых добраахвотных памочнікаў, напаўняючы яго новым зместам, робячы больш чыстым і добрым. Як сказала Аксана Трухан - валанцёры працуюць бескарысліва, але не дарма. У кожнага з іх свая матывацыя. А пра тое, што яны атрымліваюць узамен, лепш за іх саміх не скажа ніхто.

*"...Мы пачалі прыходзіць у дзіцячы дом. І кожны раз, калі мы паяўляліся, дзеці беглі нам насустрач і крычалі: "Дзяўчынкі прыйшлі!" Нам здавалася, што яны чакаюць нас і, лежачы вечарам у ложку, думаюць аб кімсьці з нас. Нам вельмі шкада гэтых дзетак. Калі ў дзіцячым доме быў каранцін і нам забаронена было прыходзіць, мы хваляваліся. Нават за самых "шкодных" хлопчыкаў хваляваліся". (Ірына Махоўка, сярэдняя школа №208 г.Мінска).*

*"...Я працавала як валанцёр у дзіцячым доме №3. З групай дзетак я збірала сухую траву і сухія галінкі з градак. Да нас падбеглі тры хлапчукі з іншай групы і пачалі дапамагаць. Калі адзін з іх працягнуў мне ручкі, я ўбачыла, што на кожнай з іх па аднаму пальчыку. Канешне, я не паказала выгляду, што ўнутрана ўздрыгнула. Трэба было бачыць, як гэтае дзіцятка працавала, як яно старалася абхапіць сваімі ручкамі траву, каб не згубіць па дарозе. Вось так мы і выканалі разам усю работу.*

*І самае галоўнае, што вынікі ў нас атрымліваюцца ашаламляльныя!" (Наталля Фядоркіна, выпускніка Мінскага педвучылішча №1).*

*"...Калі я стала валанцёрам, калі ўпершыню выступала на сцэне, убачыла вочы сваіх гледачоў, вочы дзяцей, поўныя болю і адчаю, іх безвалосыя галоўкі, іх ручкі, прымацаваныя да капельніцаў, я зразумела, як цяжка быць валанцёрам. Як цяжка пець і бачыць слёзы ў зале, цяжка смяяцца і гуляць у вясёлых герояў, калі твае гледачы - безнадзейна хворыя дзеці.*

*Стаўшы валанцёрам, я навучылася быць цярплівай, разумець праблемы і гора іншых людзей". (Анастасія Шпакоўская, падлеткава-маладзёжны клуб "След").*

*"...Валанцёр - стан душы. А калі душа сустракае роднасную душу, тады не патрэбны ніякія перакладчыкі..." (Лена Сіўцова, сярэдняя школа №138 г. Мінска).*

***

...У Цэнтры валанцёрскага руху "Крок насустрач" ёсць і пачэсны валанцёр. Шасцігадовая Ліна (яна сёлета пойдзе ў школу) стала ім яшчэ да свайго нараджэння, калі разам з мамай-валанцёрам была Снягуркай на дзіцячым свяце. Дарэчы, яе мама, Наталля Хецько (якая зараз з'яўляецца менеджэрам валанцёрскага Цэнтра "Крок насустрач") усё сваё жыццё была Снягуркай у гэтай ролі на ранішніку ў дзіцячым анкагематалагічным цэнтры. У адным з боксаў ляжаў безнадзейна хворы хлопчык. Ён быў ужо дастаткова вялікім, каб не верыць ні ў Дзеда Мароза, ні ў Снягурку. Але калі за шклом (да яго не пускалі) замест прывычнай медсястры з'явілася Снягурка Наташа і стала нешта паказваць яму жэстамі, у хлопчыка міжволі шырока расплюшчыліся вочы і ў іх з'явілася нешта такое... радасць, якую Наташа ніколі не забудзе. Гэты момант стаў для яе вырашальным. Ёй хацелася дараваць хвілінкі радасці людзям, але дзяўчына разумела, што яна не зможа прыйсці Снягуркай у кожны дом. І ў яе з'явілася мара - арганізаваць праект "Чараўніцтва на Каляды", у рамках якога падрыхтаваць шмат Снягурак, якія маглі б павіншаваць тысячы дзяцей. Наташа сваю мару рэалізавала.

Кожны валанцёр атрымлівае магчымасць быць патрэбным. Не трэба ратаваць увесь свет, можна дапамагчы хаця б аднаму чалавеку. Але калі хтосьці адчувае ў сабе патэнцыял, хоча нечага большага, ён можа прыйсці ў Цэнтр і прапанаваць свой праект. Да яго ініцыятывы абавязкова прыслухаюцца, і калі ў ёй ёсць рацыянальнае зерне, дапамогуць рэалізаваць. Канешне, каб дапамагаць, неабавязкова станавіцца на ўлік у спецыяльную арганізацыю. Сапраўднае ўменне спачуваць не мае патрэбы ва ўсеагульным адабрэнні і галоснасці, і яно заўсёды знойдзе сабе прымяненне ў нашым далёка не бясхмарным жыцці. Але даведацца, дзе больш за ўсё чакаюць тваёй дапамогі, дзе гадзіна твайго знаходжання дзейнічае лепш за самыя моцныя лекі, можна толькі ў Цэнтры валанцёрскага руху, дзе ты - ужо не адзін у полі воін.

**Святлана СУБОЦІНА.**

У Крычаве ў мікрараёне Сож адкрыўся, на радасць школьнікаў, камп'ютэрны клуб. Тут падлеткі, займаючыся на камп'ютэры, могуць удасканальваць і свае веды па англійскай мове. А дапамагае асвойваць англійскую мову наведвальнікам клуба выкладчык Наталля Скробава - выпускніца Магілёўскага педуніверсітэта.

НА ЗДЫМКУ: пяцікласніку сярэдняй школы №3 Крычава Віктару Сапронаву вельмі дапамагаюць у вывучэнні англійскай мовы заняткі з выкладчыкам Наталляй Скробавай.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

Рэдакцыі адказваюць

# Калектыў школы дапамог Хрысціне і яе бабулі

Пасля выхаду матэрыялу "Дзіцячая бяда на стыку заканадаўства" (№50 ад 23.04.2002) мы вырашылі даведацца пра далейшы лёс 13-гадовай Хрысціны Сакаловай з Мінска, якая сёлета стала сіратой. Нагадаем, дзяўчынка магла б трапіць у дзіцячы дом, нягледзячы на тое, што ў яе ёсць бабуля, якая жыве разам з Хрысцінай. Бабуля - грамадзянка Кыргызстана і адразу не можа атрымаць апеку над унучкай.

Стан спраў на час напісання матэрыялу і атрыманы каментар спецыяліста давалі падставу спадзявацца на тое, што сітуацыя Сакаловых будзе вырашана пажаданым для сям'і чынам. Як жа на самай справе?

За адказам мы звярнуліся ў адміні-страцыю Кастрычніцкага раёна Мінска. У атрыманым рэдакцыяй лісце за подпісам намесніка кіраўніка адміністрацыі Уладзіміра Македына паведамляецца, што "каб абараніць правы і законныя інтарэсы непаўналетняй сіраты Сакаловай К.І., апекуном над маёмасцю прызначаны сацыяльны педагог школы №194, у якой вучыцца Хрысціна. Рашэннем адміністрацыі Кастрычніцкага раёна яму даручана аформіць пенсію па страце карміцеля і атрыманню штомесячных выплат на ўтрыманне сіраты".

Таксама ў Адміністрацыі паведамілі, што калектыў школы, дзе вучыцца Хрысціна, аказаў матэрыяльную дапамогу дзяўчынцы і яе бабулі на паездку ў Кыргызстан для вырашэння пытання пра пераезд у Беларусь. Пасля таго як бабуля завершыць усе неабходныя фармальнасці, звязаныя з афармленнем права пражывання ў Беларусі, яна зможа апеку над унучкай і яе маёмасцю перааформіць на сябе.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

# "Не" гвалту – "так" падтрымцы

***Дзеці ніколі не бываюць жорсткімі - датуль, пакуль не ўбачаць першае жорсткае дзеянне дарослых. Сказаць, што такіх дзеянняў у нашым жыцці не бракуе, - значыць, не сказаць нічога. Гвалт так увайшоў у нашую паўсядзённасць, што мы яго ўжо і не заўважаем, настолькі ён здаецца нам арганічным і натуральным. Як з гэтым змагацца? Псіхолагі сцвярджаюць: перш за ўсё трэба заўважыць гвалт і ўсвядоміць, што гэта - не норма, з гэтым нельга жыць.***

Каб дапамагчы ў гэтым, Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" пры падтрымцы Усегерманскай асацыяцыі чарнобыльскіх ініцыятыў і дыяконіі евангелічнай царквы Вестфаліі рэалізуе праект "Кансультацыйны цэнтр для жанчын, дзяўчат і дзяўчынак-падлеткаў". Тры гады таму ў мікрараёне Малінаўка г. Мінска быў адкрыты аднайменны цэнтр, які аказвае псіхалагічныя і кансультацыйныя паслугі (да слова - бясплатныя) жанчынам і дзецям. На пачатку мая ў школах мікраёна Цэнтр правёў штогадовую акцыю "Скажы "не" насіллю", у рамках якой былі арганізаваны Дошкі галоснасці, конкурсы малюнкаў і плакатаў, прагляд фільмаў (накшталт фільма аб насіллі, якое здзяйсняецца над жаночым арганізмам падчас аборту), турнір ветлівасці. Праводзіліся ролевыя гульні, якія спрыяюць выпрацоўцы паводзін, што могуць абараніць ад гвалту.

Але самае галоўнае, што дае такая акцыя, на думку псіхолага Цэнтра Наталлі Плескачовай, гэта магчымасць выгаварыцца, прадастаўленая дзецям, магчымасць расказаць аб тым, што яны адчуваюць. Гэтага нашым дзецям катастрафічна не хапае ў паўсядзённым жыцці. Між тым, шчырая размова аб сваіх праблемах - адна з асноўных умоў псіхічнага здароўя. Школьнаму псіхолагу дзеці давяраюць не заўсёды, і гэта зразумела: ён супрацоўнічае з настаўнікамі, і школьнікі баяцца, што тыя апынуцца ў курсе іх праблем. Таму псіхолагі Цэнтра расказваюць хлопчыкам і дзяўчынкам пра сваю работу і запрашаюць іх у цяжкай сітуацыі звяртацца ў Цэнтр.

І падлеткі прыходзяць за дапамогай. Часцей за ўсё яны звяртаюцца з праблемамі, якія тычацца ўзаемаадносін з бацькамі і аднагодкамі, дзяўчынкі нярэдка прыходзяць з сексуальнымі праблемамі. Выпадкі могуць быць самымі разнастайнымі. Адну дзяўчынку па-зверску збілі аднакласніцы. Прычына - у тым, што яна добра апранаецца. Другая, якая яшчэ пару гадоў таму была вельмі паспяховай вучаніцай і цудоўнай дачкой, стала прагульваць школу, выпіваць, займацца прастытуцыяй, жорстка збіваць уласную маці. Але гэта ўсё адбываецца не раптам і не проста так - за гэтым заўсёды хаваецца нейкая драма.

"У нашым грамадстве, - гаворыць Наталля Плескачова, - быў перыяд, недзе на пачатку Перабудовы, калі ні дзеці, ні іх бацькі не бачылі асаблівай перспектывы і абсалютна не імкнуліся атрымліваць адукацыю. Настаўнікі скардзіліся: прыходзіш у клас - няма з кім працаваць, не бачым ні адной пары вачэй, у якіх была б хоць якая-небудзь цікаўнасць, дзеці нічога не хочуць ведаць... Зараз сітуацыя памянялася. Нашых дзяцей сёння можна раздзяліць на дзве палярныя групы: першая па-ранейшаму не бачыць у адукацыі асаблівага сэнсу - з-за розных прычын, у першую чаргу, напэўна, "дзякуючы" свайму бліжэйшаму сацыяльнаму асяроддзю, - і другая група дзяцей, якія хочуць дасягнуць у жыцці як мага больш і мэтанакіравана ідуць да сваёй мары. Яны маюць па пяць рэпетытараў - і ні хвіліны свабоднага часу. Але і тыя, і другія маюць пільную патрэбу ў псіхалагічнай падтрымцы і абароне. Таму што дзеці - у якім бы грамадстве і ў якой сям'і, нават самай добрай і паспяховай, яны ні раслі - гэта заўсёды найбольш уразлівая, слабая і безабаронная частка грамадства. І калі ў нас, дарослых, выпрацаваны хоць нейкія сродкі псіхалагічнай абароны ад розных неспрыяльных сітуацый: паплакацца сяброўцы, альбо нават і выпіць у кампаніі (мы бяром зараз самыя элементарныя сродкі разрадкі, якія пазбаўляюць псіхалагічнага напружання, не маючы на ўвазе, прадуктыўныя яны альбо не вельмі), - дык дзеці парою аказваюцца безабароннымі нават перад не такімі ўжо і складанымі праблемамі.

Проста многае, што адбываецца ў жыцці, для дзяцей - упершыню, і як з усім гэтым справіцца, яны не ведаюць. Нават калі не закранаць тэму гвалту - ёсць проста ўзроставыя крызісы, якія кожны чалавек павінен прайсці, незалежна ад таго, у якой сям'і - добрай альбо не вельмі - ён расце. Таму ў любым грамадстве і ў любых умовах дзеці маюць патрэбу ў падтрымцы і тактоўнай апецы з боку дарослых. Ёсць пэўныя фізіялагічныя моманты, пэўныя фазы развіцця ў тым жа падлеткавым узросце, і дарослым трэба ведаць і разумець іх. А яшчэ - тлумачыць дзецям, што з імі адбываецца, дапамагаць ім разабрацца ў саміх сабе. Нашым дзецям, як і іх бацькам, такіх ведаў часта не хапае.

**Святлана СУБОЦІНА.**

***Крыху больш месяца назад наша газета паведамляла аб тым, што затрымана група маладых людзей, якія займаліся вырабам і збытам фальшывых грошай - пяцітысячных купюр. Зараз двое фальшываманетчыкаў знаходзяцца ў следчым ізалятары, яшчэ некалькі чалавек - пад падпіскай аб нявыездзе. Следства пакуль не закончана, але некаторыя факты сталі ўжо вядомыя. Было цікава высветліць, што паслужыла прычынай для проціпраўных дзеянняў, па сутнасці, зусім маладых людзей - нехта некалькі гадоў назад скончыў школу, нехта яшчэ вучыцца ў школе альбо прафесійна-тэхнічным вучылішчы.***

Працяг размовы

# "А так хацелася піва..."

Дзмітрыю П., які быў затрыманы 10 сакавіка на бензакалонцы, 11 сакавіка споўнілася 24 гады. Ён меў сталае месца працы - працаваў сістэмным праграмістам на адным з прадпрыемстваў, паступіў завочна ў эканамічны універсітэт. Як чытаеш у яго тлумачэнні, што знаходзіцца ў крымінальнай справе, з дзяцінства захапляўся камп'ютэрамі, свой камп'ютэр тры гады назад сабраў сам з асобных камплектуючых, потым купляў неабходнае абсталяванне. Ідэю друкаваць грошы яму падказаў яго сябар Віталь К. Было гэта позняй восенню мінулага года. У той момант Віталь не працаваў, і грошы яму былі вельмі патрэбны. Тут можна паразважаць аб тым, што ў кожнага - свая галава на плячах і кожны сам адказвае за свае ўчынкі, але тым не менш пачатак злачыннай справе быў пакладзены.

Першы блін атрымаўся камяком, купюры былі яўна не падобнымі да сапраўдных, і Дзмітрый у вольны ад работы час удасканальваў сваё майстэрства. У канцы года даў некалькі купюр свайму шаснаццацігадоваму суседу Андрэю Ш. з умовай, што пры збыце той забірае сабе 2 тысячы, а 3 тысячы аддае. Андрэй Ш. зрабіў спробу купіць за гэтыя купюры ў камерцыйных крамах піва і шакаладку. Некалькі спроб былі няўдалымі, прадаўцы парвалі купюры, убачыўшы, што яны падробныя. Адбылося гэта на міні-рынку "Маскоўскі", дзе крамаў больш за трыццаць. Але ў рэшце рэшт аперацыя ўдалася.

Увогуле, збытам купюр займалася некалькі непаўналетніх - малодшым было толькі па чатырнаццаць. Удалымі былі далёка не ўсе спробы. Па словах прадаўцоў камерцыйных крам, калі яны заўважалі, што купюры фальшывыя і гаварылі аб гэтым "пакупнікам", тыя ўцякалі. Дарэчы, прадаўцы, калі пры здачы выручкі ўсё ж выяўлялі фальшывыя купюры, звычайна іх рвалі альбо закладвалі свае грошы. Некалькі купюр было збыта на вуліцы Маскоўскай пры пакупцы ў бабуль вяленай рыбы. А ўвогуле геаграфія збыту была даволі шырокай - умельцы, што жылі ў канцы вуліцы Чыгуначнай, не ленаваліся ездзіць у раён Камароўскага рынку, універсама "Рыга".

Віталь К. збываў купюры ў мікраараёне "Серабранка". Калі пачалося следства, адзін з тых, хто быў замешаны ў гэтай справе, у тлумачэннях напісаў: "Так хацелася піва. А яшчэ - гарэлкі з закускай". Грошай жа не было. Сапраўды, калі купляць піва ў паўтаралітровых ёмістасцях, ды кожны дзень, вельмі складана знайсці патрэбную колькасць грошай. Нават калі пэўную суму даюць бацькі альбо маеш нейкія выпадковыя заробкі. У Дзмітрыя П. бацькі былі на пенсіі. Дзе ж тут хопіць зарплаты - і на ежу, і на адзенне, ды і мабільнік быў патрэбны як паветра.

У ракавы дзень 9 сакавіка, па матэрыялах следства, Дзмітрый ужываў спіртное з самай раніцы. І калі сустракаўся з Віталем, і калі сярод ночы сустрэў у раёне Уманскай Ігара Н.

Лёс Ігара Н. - самы трагічны сярод усіх удзельнікаў гэтай гісторыі. Тры гады назад, калі яму было чатырнаццаць, зусім маладой памерла маці. Хлопчык рос з бабуляй, бо бацьку зусім не хваляваў далейшы лёс сына. Вучыўся ў школе, потым паступіў у вучылішча. Лічыўся нядрэнным навучэнцам. Але, як і многія сённяшнія падлеткі, таксама любіў піва. І не адмовіўся ад прапановы Дзмітрыя "папіць піўка". На таксі паехалі ў начны магазін, хацелі разлічыцца з вадзіцелем фальшывай купюрай, але ў таго не было здачы. Паехалі размяняць грошы на бензазапраўку, там аператар заўважыў, што купюра фальшывая і націснуў кнопку сігналізацыі. Ніхто са "зладзеяў" нават не паспрабаваў збегчы. Ці ўжо не змог?

Ніхто з удзельнікаў гэтай сумнай гісторыі раней не судзімы, не стаяў на наркалагічным уліку (а шкада), ды і дапамога псіхіятра сяму-таму не пашкодзіла б. Вельмі ўжо вялікае жаданне ў сённяшніх маладых людзей жыць на шырокую нагу, не прыкладаючы дзеля гэтага асаблівых намаганняў. І тым не менш многія моманты гэтай гісторыі застаюцца на сумленні бацькоў, школы, ды і ўвогуле грамадскай думкі. Чаму адной з найбольш важных каштоўнасцей жыцця з'яўляецца сёння піва, якое рэкламуюць больш за сто разоў у дзень (не паленавалася - палічыла) і якое абавязкова трэба піць "за мужчынскую дружбу"? Колькі расплодзілася розных гульняў, дзе можна метадам "тыку" выйграць прыстойную суму грошай, якую настаўніку трэба зарабляць увесь год? Гэта бачаць дзеці з іх кволай псіхікай. А ў суседнім пакоі (добра калі ў суседнім) упокат спяць п'яныя бацькі, а часам і бабуля з дзядуляй. У школе засыпалі двойкамі.

А тут - як у казцы. Даеш у кіёск фальшыўку, а табе - здачу сапраўднымі грашыма. Хочаш - на аўтаматы, дзе можна як прайграць, так і выйграць, хочаш - у камп'ютэрны клуб, а нічога не хочаш - літры тры піва выпіў, і ўжо нічога не трэба.

Апошняе слова скажа суд. Але думаю, што тыя ўдзельнікі гэтай гісторыі, якім не давядзецца ўбачыць "неба ў клетачку", ніколі больш не возьмуць у рукі фальшывую купюру.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Кансультацыі спецыяліста

# Бяда, якую могуць папярэдзіць

***Залежнасць ад наркотыкаў з'яўляецца сур'ёзнай праблемай сучаснага грамадства. Наркотыкі нярэдка калечаць жыццё і маладым людзям, і іх родным. Між тым, менавіта сваякі могуць папярэдзіць бяду.***

Што павінна вас насцеражыць?

Рэзкія змены ў паводзінах дзіцяці: імкненне пазбягаць бацькоў, кароткія і няпэўныя адказы па тэлефону, страта цікавасці да старых сяброў і ранейшых заняткаў, уключаючы вучобу або працу; агрэсіўны, узбуджаны настрой або, наадварот, беспрычынная лагоднасць, бязмежная дабрыня; незвычайны выгляд вачэй дзіцяці: празмерна звужаныя або, наадварот, расшыраныя зрэнкі, бялкі, налітыя крывёю; невялічкія крывавыя плямы на бялізне, сляды ўколаў або неглыбокіх шматлікіх парэзаў скуры на руках і нагах уздоўж вен; неахайнасць у адзенні, паяўленне сярод асабістых рэчаў бляшанак, бутэлек, павышаная ўвага да хатняй аптэчкі; паяўленне ў лексіконе падлетка новых слоў, выразаў, накшталт "джэф", "мулька", "шырнуцца" і інш., а таксама татуіровак на целе; паяўленне падазроных знаёмых, крадзеж грошай і рэчаў з дому.

Майце на ўвазе, што многія прыкметы можна выявіць толькі напачатку. Не цягніце час - звярніцеся да спецыяліста-нарколага. Адна з самых распаўсюджаных памылак родных наркаманаў - як мага даўжэй утойваць сваё няшчасце ад знаёмых і сяброў.

Калі вы даведаліся, што ваша дзіця ўжывае наркотыкі, адразу ж звярніцеся ў грамадскія арганізацыі або сацыяльныя службы, якія прадастаўляюць псіхалагічную і кансультацыйную дапамогу.

Ці трэба выганяць наркамана з сям'і? Вельмі вялікая верагоднасць, што без сям'і ён загіне або пойдзе на злачынства і апынецца ў турме, дзе людзі не становяцца больш здаровымі, іх характар не паляпшаецца і яны не вылечваюцца ад наркаманіі.

Раіць, як паводзіць сябе з наркаманам - сынам або дачкой, - вельмі цяжка. Сітуацыя ва ўсіх сем'ях розная, прычым яна пастаянна мяняецца. Бацькі могуць быць духоўна і фізічна слабымі або, наадварот, моцнымі. Адрозніваюцца сем'і і па матэрыяльных магчымасцях. Таму давядзецца прымаць рашэнні, абапіраючыся на ўласны вопыт і інтуіцыю.

Пастарайцеся пазбавіцца пачуцця віны за дрэнныя ўчынкі свайго дзіцяці. Калі яно дастаткова дарослае, каб не падпарадкоўвацца вашым патрабаванням, - значыць, яно можа і павінна адказваць за свае паводзіны. Вы ўсё роўна не зможаце пражыць жыццё за яго. Лепш засяродзьце сваю ўвагу на чым-небудзь больш прадуктыўным - напрыклад, вывучайце пытанні, якія датычаць сучаснага лячэння наркаманіі.

Адносіны з наркаманам неабходна наладжваць па цвёрдых, але зразумелых яму правілах. Ён павінен ведаць, як вы ставіцеся да той або іншай ягонай выхадкі, што зробіце ў адказ. І калі ён учыніў штонебудзь нядобрае, вам лепш прытрымлівацца сваіх правілаў або абяцанняў да канца. Толькі не забывайце пахваліць за добрыя паводзіны і правільныя рашэнні - гэта падтрымае яго самапавагу, якая неабходна яму ў перыяд барацьбы са сваёй звычкай.

Трэба быць выключна праўдзівым з наркаманам. Калі ён ведае, што яму могуць схлусіць, ён не будзе ні давяраць вам, ні падпарадкоўвацца вашым патрабаванням.

Усе наркаманы ў душы - надзвычай не ўпэўненыя ў сабе людзі, з развітым комплексам непаўнацэннасці. Таму яны адчуваюць вострую патрэбу ў сяброўстве і каханні. І, вядома, здольныя перажываць гэтыя пачуцці.

Сямейныя пары наркаманаў часам вызначаюцца незвычайнай устойлівасцю (у адрозненне ад саюзаў наркаманаў і здаровых). Ды і сяброўства нярэдка бывае моцным і трывалым. Толькі з той папраўкай, што ў асяроддзі наркаманаў узаеміны не зусім падобныя да агульнапрынятых: для такіх людзей галоўнай мэтай у жыцці ўсё ж застаюцца наркотыкі. Менавіта ў момант пошуку або дзяльбы наркотыкаў пачынаюцца ўзаемныя папрокі, абвінавачванні, прыгадваюцца старыя крыўды.

Калі наркотыкаў хапае на ўсіх, стасункі ў наркаманаў - проста ідылічныя. Кранальны клопат, шчырая адданасць, самаахвярнасць, гатоўнасць падзяліцца апошнім кавалкам; усе крыўды даруюцца, а ўзаемныя падманы і абразы здаюцца жыццёвымі дробязямі.

Як правіла, у сямейнай пары адмаўленне ад наркотыкаў немагчымае. Партнёры міжволі правакуюць адзін аднаго на ўжыванне зелля, прычым ролі ўнутры пары могуць мяняцца. І ў той жа час знешне, на словах, яны могуць горача адмаўляцца ад наркотыкаў. Бяда ў тым, што партнёры не даюць адзін аднаму ніякага шансу забыць пра іх.

Разлічваць на сур'ёзныя ўзаеміны з наркаманамі можна, толькі калі яны чакаюць ад знаёмства з вамі адчувальнай выгады. Гісторыі, расказаныя імі, нават самыя жаласлівыя, часта з'яўляюцца прэлюдыяй да махлярства. Калі новы сябар запэўнівае, што дзеля вас адмовіцца ад наркотыкаў, не спяшайцеся верыць гэтаму - нават пры выкарыстанні самых сучасных метадаў тэрапіі верагоднасць вылечвання не перавышае 30-35 працэнтаў.

Па дапамогу можна звярнуцца ў падлеткавы наркалагічны кабінет па месцы жыхарства або ў Мінскі гарадскі наркалагічны дыспансер па тэлефоне: 253-58-21.

**Раіса ЕСАЯН,**
**валеолаг**
**27-й паліклінікі**
**Мінска.**

Праблема

**Міхаіл ВОЛКАЎ, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь:**

# "Інтэлектуальную эліту краіны трэба ўзгадоўваць у школьных класах і студэнцкіх аўдыторыях..."

*Сёння ўсе гавораць пра неабходнасць сур'ёзнай работы з адоранымі дзецьмі. Нават рэспубліканская праграма прынята. У яе рамках, у прыватнасці, праводзяцца прадметныя алімпіяды. Гаворка пойдзе пра матэматыку, але, думаю, гэтае пытанне востра стаіць і наконт іншых прадметаў.*

*Напрыклад, у 1999 годзе на Сусветнай алімпіядзе па матэматыцы ў Бухарэсце каманда Беларусі заняла шостае месца, апярэдзіўшы юных вундэркіндаў з усіх высокаразвітых краін Еўропы і ЗША. Здавалася, можна толькі парадавацца таму, што дзяржава так шмат увагі ўдзяляе выхаванню будучых інтэлектуалаў. Але, як высветлілася, радавацца пакуль ранавата. Аказваецца, бліскучыя вынікі прыносяць не толькі задавальненне! А нашым юным талентам часам лягчэй выступіць на прэстыжным міжнародным турніры, чым у сябе дома даказаць сваю значнасць, пераканаць родную дзяржаву ў неабходнасці сур'ёзнай падтрымкі будучай інтэлектуальнай эліты. Да такой высновы я прыйшла падчас гутаркі з заслужаным работнікам адукацыі Беларусі, настаўнікам матэматыкі Віцебскага ліцэя №1 Міхаілам ВОЛКАВЫМ.*

- Мае выхаванцы ўдзельнічаюць у алімпіядным руху ўжо дзесяць гадоў. І даволі паспяхова. За гэты час падрыхтавана шэсцьдзесят пераможцаў рэспубліканскіх алімпіяд, сем разоў мае вучні прадстаўлялі Беларусь і станавіліся пераможцамі сусветных алімпіяд па матэматыцы ў Стамбуле і Таронта, Ганконгу і Бамбеі, на Тайване, у Бухарэсце і Паўднёвай Карэі. Пагадзіцеся, ёсць нагода парадавацца за шкаляроў з гэткім жа эмацыянальным уздымам, як нядаўна за беларускіх хакеістаў на Зімовай Алімпіядзе. Упэўнены, што дзеці не менш дастойныя гэтага, але, на жаль, былі толькі сціплыя паведамленні ў прэсе. Краіна не ведае сваіх герояў. Мясцовыя ўлады (Віцебскі аблвыканкам) спрабуюць неяк выправіць гэтую несправядлівасць і праводзяць ушанаванні пераможцаў, выказваючы словы ўдзячнасці, заахвочваючы школьнікаў.

**- Але ж створаны Прэзідэнцкі фонд падтрымкі таленавітай моладзі. Яму і карты ў рукі.**

- Магчымасці фонду абмежаваныя - гэта толькі разавыя прэміі пераможцам алімпіяд і настаўнікам, якія іх падрыхтавалі.

Дарэчы, пасля поспеху маіх вучняў на чарговай міжнароднай алімпіядзе мне ў ліку іншых настаўнікаў давялося прысутнічаць на прыёме ў Прэзідэнта рэспублікі. А.Р.Лукашэнка гаварыў аб прыярытэтнай увазе да адукацыі, аб агульнанацыянальнай значнасці намаганняў адораных дзяцей і школьных педагогаў, якія раскрываюць юныя таленты, абяцаў забяспечыць рэальную падтрымку нашым разумнікам і разумніцам. Бо ў сусветную эліту трэцяга тысячагоддзя ўвойдуць перш за ўсё дзяржавы, якія змогуць узняць на новы якасны ўзровень сістэму адукацыі, стварыць умовы для развіцця інтэлектуалаў. А мы можам страціць свае шансы ўжо на старце!

**- Міхаіл Мікалаевіч, з такімі сур'ёзнымі вынікамі на алімпіядах па той жа матэматыцы, мне здаецца, аб упушчаным часе наўрад ці варта гаварыць?**

- Не толькі трэба гаварыць, а біць у званы. Мяркуйце самі. Нібыта пачалі рухацца ў напрамку таго, каб даць магчымасць удзельнічаць у рэспубліканскай алімпіядзе па матэматыцы школьнікам, пачынаючы з сёмага класа. Выдатна! Але што мы бачым сёння? На абласным узроўні праведзены алімпіяды па матэматыцы для вучняў 7-11 класаў. Але чамусьці былі выключаны 7 і 8 класы з праграмы рэспубліканскай алімпіяды. Няма сродкаў. Нас паставілі перад фактам. Пасля таго як умяшалася матэматычная грамадскасць рэспублікі, вучняў восьмых класаў усё-такі дапусцілі да ўдзелу ў алімпіядзе. Прасілі, каб за свой кошт дазволілі ўдзельнічаць сямікласнікам. Не. І сёння для 7-х класаў на рэспубліканскім узроўні не праводзіцца ні алімпіяд, ні іншых турніраў інтэлектуалаў. Пра якія асаблівыя ўмовы для адораных дзяцей можа ісці гаворка, калі ў нас адоранасць шукаюць толькі ў старшакласнікаў?! А яна ж праяўляецца раней. Трэба толькі даць магчымасць дзецям паказаць сябе!

Далей - больш. Якія сёння льготы пры паступленні ў ВНУ маюць пераможцы і прызёры рэспубліканскіх алімпіяд? Толькі пераможца можа паступіць без экзаменаў, а другое і трэцяе месцы раўназначныя пяцёрцы па прадмеце. Нонсенс. Так, Дзмітрый Дорын, выпускнік Лужаснянскай гімназіі, у 2000 годзе заняў сёмае месца (II катэгорыя) на рэспубліканскай алімпіядзе па матэматыцы, быў залічаны кандыдатам у зборную Беларусі для ўдзелу ў Сусветнай алімпіядзе, паспяхова прайшоў адборачны тур, паехаў у Паўднёвую Карэю і... стаў бронзавым прызёрам! А што ж дома? Без экзаменаў у БДУ яго не бяруць - на рэспубліканскай алімпіядзе ў яго была II катэгорыя. І гэта не адзінкавы выпадак!

Сёлетнія выпускнікі ліцэя №1 Станіслаў Галаўнёў і Яўген Старасельскі сталі пераможцамі рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі старшакласнікаў, гэтымі днямі яны прадстаўляюць Беларусь на Сусветным форуме ў ЗША. Але ім даводзіцца думаць: куды пайсці вучыцца? Іх на сённяшні дзень дапусцілі толькі да III тура ўнутрыуніверсітэцкай алімпіяды для абітурыентаў БДУ. А, напрыклад, Санкт-Пецярбургскі універсітэт запрашае такіх выпускнікоў вучыцца адразу, без экзаменаў! І, дарэчы, не толькі ён адзін, іншыя расійскія ВНУ таксама. Ільготы для пераможцаў алімпіяд і канферэнцый у Расіі становяцца больш істотнымі. І нашы таленавітыя дзеці, бачачы сваю незапатрабаванасць, пакідаюць радзіму і едуць вучыцца ў ВНУ Расіі і далёкага замежжа.

З якой мэтай робяць усё больш складанымі правілы прыёму ў ВНУ? Гавораць, каб ураўняць шансы абітурыентаў пры паступленні, выключыць блат і неаб'ектыўныя адзнакі. Але атрымліваецца іншая карціна. Забяспечваючы ўсеагульную ўраўнілаўку, пазбаўляючы пераваг медалістаў і пераможцаў алімпіяд, пашыраецца поле для манеўраў бацькоў, якія прывыклі ўладкоўваць сваіх дзяцей "па блату", а таксама ахвочых да хабару экзаменатараў. І з чым у выніку застаецца рэспубліка? Трэба сур'ёзна думаць над тым, як рэальна падтрымліваць адораных дзяцей, як не дапусціць "уцечкі мазгоў".

**- А хіба рэспубліканская праграма "Адораныя дзеці" не вырашае гэтых праблем? Бо яна ж павінна ўлічваць усе аспекты работы з гэтай катэгорыяй вучняў.**

- Безумоўна. Падобныя праграмы ёсць ва ўсіх цывілізаваных краінах і паспяхова рэалізуюцца, юныя таленты справядліва разглядаюцца як галоўны набытак нацыі, яе будучыня. А ў нас? Усё, як заўсёды, упіраецца ў фінансаванне.

Але! Хачу прывесці прыклад з іншай галіны. Нядаўна ў Віцебску праводзіўся хакейны турнір для школьнікаў "Залатая шайба". Цудоўныя цырымоніі адкрыцця і закрыцця, высокае прадстаўніцтва ўсіх рангаў, бясплатныя гульні для гледачоў. Значыць, можна знайсці сродкі, спонсараў. Выгадней укладваць грошы ў спорт? Прэстыжней? Дарэчы, сярод пераможцаў аказалася каманда з раённага цэнтра Вольска Саратаўскай вобласці (Расія), дзе хакеем займаюцца ўсяго 70 хлапчукоў пад кіраўніцтвам трэнераў-энтузіястаў.

Нашы настаўнікі, якія працуюць з адоранымі дзецьмі, - такія ж энтузіясты. Гэта людзі, якія гатовы не лічыцца ні з уласным часам, ні з затрачанымі намаганнямі дзеля поспеху і развіцця юных талентаў. А сродкі? Бясспрэчна, яны патрэбны. І на правядзенне алімпіяд вучняў, пачынаючы з сёмага класа, і на правядзенне збораў па падрыхтоўцы да алімпіяд розных узроўняў (з-за адсутнасці фінансавання гэта заўсёды праблематычна), і на ўдзел юных талентаў у розных міжнародных турнірах, канферэнцыях у Расіі, краінах СНД. Усё гэта проста неабходна!

Зразумела, адораных дзяцей не так ужо і шмат. Мы павінны берагчы і расціць іх сапраўды як нацыянальны набытак. Магчыма, кожная вобласць зможа знайсці сродкі, спонсараў і замацаваць іх за сваімі вундэркіндамі. А дзеці не падвядуць!

Я перакананы, што інтэлектуальную эліту краіны трэба ўзгадоўваць у школьных класах і студэнцкіх аўдыторыях, калі мы не хочам страціць наш залаты запас. А для паспяховай рэалізацыі праграмы "Адораныя дзеці" неабходна памятаць пра гэтых дзяцей і аказваць ім сур'ёзную падтрымку на ўзроўні дзяржавы.

**Гутарыла
Любоў ТРАПЕЗНІКАВА.**

Што хвалюе настаўніка?

# Нашчадкі тульскага Ляўшы жывуць і на Беларусі,

## альбо Ці знойдзе прадмет "Тэхналогія" сваё пачэснае месца ў школьнай праграме

Перад тым як напісаць гэты артыкул, на некалькі хвілін задумаўся аб тым, каму ён спатрэбіцца, бо на два мае папярэднія артыкулы ў "Настаўніцкай газеце" быў надрукаваны толькі адзін водгук настаўніка з Бараўлян, кіраўніка раённага метадычнага аб'яднання. Але ж былі тэлефонныя званкі аднадумцаў з Баранавіч, Гомеля, Мінска і іншых месцаў. Наведаў асабіста школу, дзе я працую, дырэктар школы-інтэрната з Верхнядзвінска. Ён настаўнік тэхнічнай працы па спецыяльнасці. Значыць сярод нас ёсць тыя, хто падзяляе мае погляды і трывогі наконт лёсу нашага прадмета.

А з якой неахвотай развітваюцца з працоўным навучаннем школьнікі па заканчэнні сёмага класа, якія паступаюць у класы з іншым профілем навучання, дзе працоўнае навучанне ўжо не выкладаецца! Пры апытанні вучняў сёмых класаў, якія больш не будуць праходзіць працоўнае навучанне, толькі адна дзяўчынка была задаволена такой перспектывай. Фактычна выбар профілю навучання замест саміх дзяцей робяць іх бацькі, бабулі і дзядулі, і не без удзелу адміністрацыі школ і настаўнікаў профільных прадметаў. Гэта так, да ведама, у святле правоў падлеткаў.

Свой артыкул я адрасую ўсім, хто мае дачыненне да нашага прадмета (і настаўнікам, і кіраўнікам органаў адукацыі), і выкажу, спадзяюся, не толькі свае асабістыя думкі. А напісаць яго прымусілі дзве адметныя падзеі.

Першая - гэта скарачэнне колькасці гадзін на працоўнае навучанне ў агульнай сетцы гадзін і выключэнне прадмета "Чарчэнне".

З майго пункту гледжання, гэта адбылося толькі з-за адсутнасці грамадскай думкі наконт важнасці і неабходнасці выкладання гэтых прадметаў у школе ў аб'ёме, не меншым за ранейшы. І гэтая мая выснова пацвярджаецца разважаннямі, якія я вынес з другой падзеі - удзелу ў заключным этапе III Усерасійскай алімпіяды школьнікаў па тэхналогіі, якая праходзіла ў Туле.

Там мы прымалі ўдзел у якасці пераможцаў першай гарадской алімпіяды па тэхналогіі сярод вучняў школ Жлобіна (дарэчы, адзінай алімпіядзе па тэхналогіі, праведзенай у Беларусі, аб гэтым я пісаў у "Настаўніцкай газеце" ад 10 студзеня гэтага года).

Цэнтральнае і галоўнае месца на Усерасійскай алімпіядзе было адведзена абароне праектаў вучняў як самастойна выкананых, так і калектыўных. Адным з галоўных крытэрыяў ацэнкі з'яўлялася тое, што праекты павінны насіць грамадска карысны і практычна важны характар, быць эканамічна і экалагічна абгрунтаванымі. Як, напрыклад, праект маскоўскіх школьнікаў "Прыставанне па адкрыццю аварыйнага люка на падводных лодках тыпу "Курск" альбо "Камп'ютэрнае забеспячэнне навучальнага працэсу ў школах" і г.д. Мы ж пры падрыхтоўцы да алімпіяды мелі прыблізнае ўяўленне аб згаданых крытэрыях ацэнкі з пісьма, якое атрымалі з Міністэрства адукацыі Расіі, дзе ў агульных рысах гаварылася і пра ўмовы ўдзелу, а таму мы ўжо на месцы дапрацоўвалі сваю дакументацыю да нарматыўных патрабаванняў. Усё ж часу не хапала... Трэба адзначыць, што ў алімпіядзе прымалі ўдзел больш двухсот вучняў з розных рэгіёнаў Расіі. Мы былі адзінымі замежнымі ўдзельнікамі, што надало алімпіядзе асаблівы каларыт. Тым не менш мы не адчувалі сябе там "иностранцами". Таму што адносіны да нас былі такімі ж, як і да расійскіх школьнікаў - роўныя сярод роўных. І ўвогуле простыя расіяне не лічаць нас "иностранцами", і тое, што мы зараз жывём у розных краінах, - справа часовая.

Адразу адзначу, што ўсе чатыры праекты, прадстаўленыя вучнямі сярэдняй школы № 13 Жлобіна, узнагароджаны дыпломамі III ступені Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі. Праекты і вырабы адзначаны за выканаўчае майстэрства, за рашэнне тэхніка-тэхналагічных задач пры канструяванні і іх вытворчасці, а таксама за рашэнне эканамічных і экалагічных пытанняў.

Асабліва ўразіла журы якасць вырабаў, таму можна сцвярджаць, што нашчадкі славутага тульскага Ляўшы жывуць і ў Беларусі, у Жлобіне. Дарэчы, матэрыялы нашых праектаў рэкамендаваны да публікацыі ў Расійскім журнале "Школа и производство" ў якасці вучэбных.

Для ўдзелу ў алімпіядзе кожны рэгіён павінен быў унесці абавязковы арганізацыйны грашовы ўзнос. Шмат было тых, хто плаціў наяўнымі грашыма, і гэта былі грошы спонсараў, грошы матэрыяльнай дапамогі настаўнікам і бацькам вучняў ад прадпрыемстваў, дзе бацькі працуюць. Такім чынам Міністэрства адукацыі Расіі раздзяліла неабходны грашовы ўклад на правядзенне алімпіяды паміж сабой і ўдзельнікамі, што выглядае разумным, інакш алімпіяда толькі за грошы міністэрства не адбылася б. Дарэчы, фінансаваў нашу паездку дзяржаўны сакратар Саюза Беларусі і Расіі П.П.Барадзін, за што яму вялікі дзякуй.

> **Ці задумаўся хто, што скарачэнне колькасці гадзін на працоўнае навучанне "выганяе" амаль што апошняга настаўніка-мужчыну са школы? Гэтага ні ў якім разе рабіць нельга.**

Але - пра галоўнае. Уразіў змест пытанняў пры тэсціраванні вучняў. Разам з пытаннямі па тэхнічнай працы (метал і дрэваапрацоўка), якіх было ўсяго 12 з 40 і якія адпавядалі праграме навучання ў нас, тэставыя заданні ўключалі пытанні па эканоміцы, узаемаадносінах у сям'і, у грамадстве і працоўным калектыве, пытанні па гісторыі, электратэхніцы, электроніцы, хіміі, мастацтве, экалогіі, культуры дома, па тым, што вывучаецца расійскімі школьнікамі на ўроках тэхналогіі. Хто скажа, што гэтыя пытанні (тэмы) не спатрэбяцца маладым людзям у іх далейшым самастойным жыцці? Калі не па асноўнай прафесіі, дык абавязкова спатрэбяцца ў паўсядзённым жыцці і дзейнасці.

Вось некаторыя прыклады такіх пытанняў:

- Што ўяўляе сабой сямейны бюджэт?
- Роля і функцыі камп'ютэра ў дзейнасці прадпрыемства?
- Што неабходна для захавання ладу ў сям'і?
- Якія асноўныя задачы маркетынгу?
- Што з'яўляецца асноўнай працоўнай функцыяй для прафесій тыпу "чалавек - тэхніка"?
- Хто адносіцца да прафесій тыпу "чалавек - знакавая сістэма", "чалавек - чалавек"?
- Чым выкліканы парніковы эфект?
- З-за чаго адбываецца выпаданне кіслотных дажджоў?
- Якія электрастанцыі вырабляюць асноўную частку электраэнергіі?

І іншыя пытанні, якія не вывучаюцца на ўроках працоўнага навучання ў нас альбо вывучаюцца адносна.

Мабыць, расіяне і падаравалі нам у якасці прызоў чатыры камплекты падручнікаў "Тэхналогія" для 7-10 класаў, бо нашы вучні мелі цяжкасці пры адказах на пытанні, якія не ўваходзяць у навучальную праграму тэхнічнай працы беларускай школы.

Яны таксама прэзентавалі нам шмат вельмі цікавых і розных дакументаў. Вось некаторыя з іх:

- Абавязковы мінімум зместу адукацыйнай сферы "Тэхналогія" і іншых прадметаў.
- Пытанні да адміністрацыі пры атэстацыі школы аб выкладанні тэхналогій.
- Канцэпцыя профільнага навучання на старшай ступені агульнаадукацыйнай школы.
- Прыкладныя вучэбныя планы для асноўных профіляў навучання.
- Патрабаванні да ўзроўню падрыхтоўкі выпускнікоў школ па прадмеце "Тэхналогія".
- Праграма і каляндарна-тэматычнае планаванне па прадмеце "Тэхналогія".
- Прыклады калектыўных творчых праектаў школьнікаў.
- Федэральная мэтавая праграма "Нацыянальная тэхналагічная база на 2002-2006 гады", зацверджаная ўрадам.

З гэтага становіцца зразумела, што мы павінны рабіць з нашым прадметам "Тэхналогія", асабліва ў сувязі з перспектывай інтэграцыі з Расіяй. Спадзяюся, што здаровы сэнс возьме верх, і ў праграму нашага прадмета будуць уключаны пытанні, якія і адпавядаюць часу і патрабаванням грамадскасці, а тэхналогія будзе выкладацца не менш як дзве гадзіны ў тыдзень ва ўсіх паралелях класаў. Таму што веды па самаабслугоўванні і жыццядзейнасці ў побыце і грамадстве неабходны кожнаму, у тым ліку і тым, хто вучыцца на "4" і "5". А не толькі тым, хто атрымлівае "3" і "2".

Спадзяюся, што скарачэнне гадзін на працоўнае навучанне - з'ява часовая, вымушаная, з-за неабходнасці пераходу на пяцідзённы тыдзень...

Практычныя заданні алімпіяды, слясарная і сталярная апрацоўка матэрыялаў па выбары былі па сілах усім удзельнікам, не з'яўляючыся асабліва складанымі. Яны адпавядаюць нашай праграме навучання. Так, сярод шасці лепшых работ па слясарнай апрацоўцы (выкананні кручка з ліставога металу), адабраных журы, былі і дзве работы нашых удзельнікаў.

І яшчэ наконт адной высновы, вынесенай з расійскай алімпіяды. У адрозненне ад расійскіх школьнікаў, якія вельмі складна і свабодна, без паперкі ў руках, абаранялі свае праекты, паказваючы пры гэтым эрудыцыю і вялікі слоўнікавы запас, нашы хлопцы свабодна разважалі толькі пры тлумачэнні канструкцыйных і тэхналагічных асаблівасцей сваіх вырабаў. Гэта я да таго, што, па-першае, нашы школьнікі не мелі неабходнай практыкі публічных выступленняў, а па-другое - усе яны прадстаўляюць той слой вучняў, якія не прайшлі ў 10 клас па іншым профілі навучання з-за недастатковых ведаў па літаратуры і мове, матэматыцы, хіміі, замежнай мове. Яны добра разбіраюцца ў тэхнічных пытаннях, і рукі ў іх "разумныя", але гэтага недастаткова. Тут вельмі б дарэчы былі вучні з фізіка-матэматычнага класа, якая па патэнцыяле вышэй за вучняў са звычайных класаў, але ж у іх прадмет "Тэхнічная праца", на жаль, пачынаючы з восьмага года навучання, не выкладаўся. Асноўная большасць юнакоў з фізіка-матэматычнага класа паступае ў ВНУ па тэхніка-тэхналагічным профілі. І каму, як не ім, вывучаць тэхналогію (чарчэнне) ў школе. Са словамі ўдзячнасці за веды, атрыманыя па чарчэнні, да мяне (мабыць, і да іншых настаўнікаў) звяртаюцца студэнты тэхнічных ВНУ - мае былыя навучэнцы, якія не маюць праблем з гэтым прадметам, у адрозненне ад тых студэнтаў, якія ў школе чарчэнне не вывучалі альбо яно выкладалася дрэнна (што вельмі верагодна з-за другараднасці прадмета і яго выкладання рознымі настаўнікамі, у большасці тымі, каму не хапае гадзін да неабходнай педнагрузкі).

Выходзіць, выключаючы чарчэнне з вучэбнага плана, мы асуджаем выпускнікоў на студэнцкія пакуты.

Які дзякуй яны нам скажуць? Прадмет "Чарчэнне" неабходна выкладаць для тых, каму ён спатрэбіцца ў ВНУ.

Некалькі слоў аб перспектывах.

Ці задумаўся хто, што скарачэнне колькасці гадзін на працоўнае навучанне "выганяе" амаль што апошняга настаўніка-мужчыну са школы? Гэтага ні ў якім разе рабіць нельга. Настаўнік тэхнічнай працы для хлапчукоў вельмі патрэбен, і ўсім вядома, па якіх прычынах. Таму і пералічваць іх не варта.

Навучальны працэс трэба арганізоўваць на аснове творчых праектаў вучняў. Гэта дае вельмі станоўчы вынік, прымушае школьнікаў самастойна выконваць увесь працэс вытворчасці, пачынаючы ад каструявання, стварэння тэхнічнай дакументацыі і заканчваючы вырабам дэталяў праекта. Няхай яны будуць і не складанымі, і не тыпавымі. Слабейшым вучням - прасцейшыя, мацнейшым - больш складаныя альбо асабістыя і аўтарскія. Гэта праверана ў маёй практыцы - вынікі толькі станоўчыя. Але як гэта зрабіць за адну гадзіну? Бадай, што, толькі тэарэтычна. А практычная частка праекта застаецца на пазаўрочны час.

Тое, што намеснік Міністра адукацыі К.С.Фарыно пры наведанні нашай школы сёлета ў красавіку даручыў падрыхтаваць неабходныя дакументы па падрыхтоўцы і правядзенні першай рэспубліканскай алімпіяды па тэхналогіі, гаворыць аб тым, што наша Міністэрства адукацыі валодае праблемай прадмета "Тэхналогія" і мае намеры яе вырашыць. Начальнік упраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама А.В.Лук'яновіч даручыў мне арганізаваць абласную алімпіяду па тэхналогіі ў будучым навучальным годзе ў Жлобіне, і ўсё гэта ўсяляе надзею і веру ў тое, што, нягледзячы, як я спадзяюся, на часовыя цяжкасці, прадмет "Тэхналогія" знойдзе сваё пачэснае месца сярод іншых прадметаў. Без правядзення конкурсаў, алімпіяд, ды і ўвогуле спаборніцтваў, не будзе прагрэсу ў выкладанні любой дысцыпліны, а прадмета "Тэхналогія" - асабліва, як прадмета абноўленага.

> **Тое, што шосты дзень вучні самастойна будуць праводзіць з карысцю для сябе і грамадскасці, выклікае, па меншай меры, недавер. Можа стацца так, што ён прынясе больш турбот як бацькам, так і школе.**

У 9-11 класах на працоўнае навучанне дзяржаўным кампанентам не прадугледжана ніводнай гадзіны. Паўстае пытанне: што рабіць юнакам і дзяўчатам, якія не паступяць у прафтэхустановы, тэхнікумы і профільныя класы школы па іншых прадметах?

А такіх, як паказвае практыка, больш паловы ад усіх вучняў старэйшых класаў. Тое, што яны шосты дзень самастойна будуць праводзіць з карысцю для сябе і грамадскасці, выклікае, па меншай меры, недавер. Можа стацца так, што ён прынясе больш турбот як бацькам, так і школе. Таму бачыцца найбольш прымальным для ўсіх, і настаўнікаў працоўнага навучання, і вучняў, і іх бацькоў, калі шосты дзень будзе аддадзены на прафесійнае навучанне юнакоў, якія не займаюцца па іншых профілях. У чытачоў можа паўстаць пытанне: дзе і каму гэта рабіць? Мае прапановы!

Тут ёсць два варыянты вырашэння гэтай праблемы.

Першы - гэта прафесійнае навучанне ў вучэбна-вытворчых камбінатах, дзе яны яшчэ захаваліся; а другі варыянт - гэта навучанне на базе школьных майстэрняў і класаў.

Дастаткова адкрыць у школе свае вучэбна-вытворчыя майстэрні, як гэта, напрыклад, зроблена ў нас: па спецыяльнасцях "Сакратар-машыністка і асновы сучаснага справаводства" і "Слесар механазборачных работ". А зараз працуем над вучэбнымі планамі па спецыяльнасці "Швачка" і "Токар на драўніне" з тым, каб забяспечыць усіх, хто пажадае і не заняты ў профільных класах па іншых прадметах, прафесійным навучаннем. Толькі ў такім разе мэтазгодным выглядае павышанае альбо паглыбленае (профільнае) навучанне ў 8-9 класах як падрыхтоўчая ступень да прафесійнага навучання ў 10-11 тэхналагічных класах. Дзеля справядлівасці адзначу, што для настаўнікаў гэта азначае сумную перспектыву застацца без неабходнай колькасці гадзін педагагічнай нагрузкі (адпаведнай зарплаты). Але ж не кожны настаўнік школы можа забяспечыць належны ўзровень прафесійнага навучання. Таму можна стварыць міжшкольныя вучэбна-вытворчыя майстэрні, дзе майстэрні школ з'яўляюцца структурнымі адзінкамі (цэхамі) гэтых міжшкольных майстэрняў і дзе ажыццяўляецца прафесійнае навучанне па розных прафесіях для вучняў розных школ па іх выбары. Канешне, пры умовах, што гэтыя майстэрні адпавядаюць патрабаванням да прафесійнага навучання і гэтае навучанне ажыццяўляе адпаведна падрыхтаваны настаўнік.

Выгада ад такой арганізацыі справы - відавочная. І дзеці заняты карысналй справай, і настаўнік мае магчымасць адпаведнага заробку, і школа будзе мець выгаду ад вытворчай дзейнасці, калі належным чынам арганізуе гэтую справу.

Перспектыва падрыхтоўкі настаўнікаў тэхналогіі ў Мазырскім інстытуце, асабліва з добрай практычнай падрыхтоўкай (добрых майстроў) адкладваецца на нявызначаны час. Сцвярджаю гэта таму, што плануемы ўступны экзамен па спецыялізацыі (тэхналогія) на факультэт тэхналогіі не зацверджаны. Гэта азначае, што вучні з выдатнай тэхналагічнай падрыхтоўкай, і ў першую чаргу практычнай падрыхтоўкай, не маюць пераваг пры паступленні ў інстытут па спецыяльнасці "Тэхнічная праца і тэхнічная творчасць" і павінны здаваць замест экзамену па спецыялізацыі экзамен па матэматыцы. Вядома ж, што тут перавагу будуць мець тыя, хто лепш здасць экзамен па матэматыцы. А сярод жадаючых паступіць вучыцца на факультэт тэхналогіі ёсць пераможцы і прызёры як гарадской, так і Усерасійскай алімпіяд па тэхналогіі.

Хутка здаваць выпускныя экзамены, і ў тым ліку па працоўным навучанні. Але ж на сённяшні дзень у зборніку Міністэрства адукацыі, дзе надрукаваны экзаменацыйныя білеты па ўсіх прадметах, білеты па тэхнічнай працы адсутнічаюць. Чаму? Можа, з гэтага мы канчаткова зразумеем, адкуль "растуць ногі" ў праблем нашага прадмета.

**Віталь ГУЗАЎ,
настаўнік тэхнічнай працы сярэдняй школы №13 Жлобіна,
метадыст аддзела адукацыі Жлобінскага райвыканкама,
член рэдкалегіі часопіса "Тэхналагічная адукацыя".**

